*І сэрцам палюбіў я гэты кут — цябе, мой старадаўні родны Слонім.*

*Алег Лойка*

# Слонімскі край

2020, № 3(49). Люты

# Слонім, 1972 год



Гэты здымак захоўваецца ў фондах Беларускага дзяржаўнага архіва кінафотафонадакументаў. Апісанне кароткае: будаўніцтва шматпавярховага дома ў Слоніме, 15 сакавіка 1972 года. На фота бачым скрыжаванне вуліц Студэнцкай (Хлюпіна) і Янкі Купалы. Гэты раён горада за пасляваенныя дзесяцігоддзі ўжо набыў новае аблічча, непазнавальна змяніўся. Старыя будынкі, у тым ліку і аўтастанцыю, знеслі. І вось робіцца апошні штрышок — дабудоўваецца шматпавярховік.

На здымку бачым некалькі дзясяткаў слонімцаў: хтосьці спяшаецца па справах, іншыя, наадварот, няспешна размаўляюць. Мужчына смела пераходзіць вуліцу — аўтамабіляў няма. Адзіны транспартны сродак на здымку — грузавік! Відаць, яго кіроўца на хвілінку забег у краму.

У сярэдзіне сакавіка 1972-га ў нашым горадзе ўжо знік снег, але яшчэ было халаднавата — усе слонімцы цёпла апрануты. І сонца схавалася за хмарамі. Але вясна ўжо была блізка.

●Сяргей Ёрш

# Кніга пра Слонім — сярод пераможцаў нацыянальнага конкурсу


Звязда

10 лютага ў Мінску прайшло ўзнагароджанне пераможцаў нацыянальнага конкурсу “Мастацтва кнігі”. У намінацыі “Фотапогляд” была адзначана кніга Уладзіміра Ліхадзедава “Слонім. Падарожжа ў часе”. Яна выйшла з друку летась і змяшчае амаль 600 слонімскіх паштовак.*

**Пра згаданую кнігу “СК” пісаў у мінулым нумары: Ёрш С. Фоталетапіс слонімскай гісторыі // Слонімскі край, 2020, № 2(48). Студзень. С. 3-4.*

# Новы старшыня

Грамадскае аб’яднанне “Слонім Канал Агінскага” ўзначаліў Станіслаў Здановіч, былы старшыня райвыканкама, які змяніў 82-гадовага Івана Вадэйку. Як піша “Слонімскі веснік”, у планах арганізацыі далейшае добраўпарадкаванне канала, а таксама занядбанага старога рэчышча Шчары ў горадзе. Прапануецца пачаць з суботніка.

ХРОНІКА

# Стагоддзе Жукоўскага



Аляксандр Жукоўскі (1920 — 1995) — адзін з самых вядомых слонімскіх краязнаўцаў. Ён — педагог, аўтар некалькіх кніг, соцень публікацый у перыядычным друку. Галоўная яго заслуга — стварэнне народнага музея сярэдняй школы № 4 г. Слоніма. Музей ужо два дзесяцігоддзі носіць імя Жукоўскага.

На 19 лютага 2020 года прыпалі 100-я ўгодкі з дня нараджэння Аляксандра Сямёнавіча.* З гэтай нагоды прайшло некалькі мерапрыемстваў, прысвечаных яго жыццю і дзейнасці.

Народны музей працягвае справу свайго заснавальніка. Яго метадыст Аліна Процак на нядаўнім рэспубліканскім конкурсе школьных музеяў заваявала дыплом першай ступені.

●Генадзь Гурскі

**Публікацыя пра Аляксандра Жукоўскага была на старонках “СК” летась: Чыгрын С. Жыў гісторыяй і краязнаўствам // Слонімскі край, 2019, № 4(38). Красавік. С. 18-19.*

# Як выглядала Шчара ў Слоніме да пабудовы канала




*Фрагмент плана Слоніма 1764 года з кнігі , якая выйшла ў Пецярбургу ў 1906-м. Замосце знізу*

У кнізе капітана Уладзіміра Судраўскага, прысвечанай гісторыі лейб-гвардыі грэнадзёрскага палка, змешчаны “*План атакі, учыненай з боку Князя Радзівіла на частку расійскіх войскаў, якія стаялі каля Слоніма пад камандай Генерала Князя Далгарукава 15/26 чэрвеня [1]764 г.*”.[1] Нядаўна яго публікаваў у сваім артыкуле гісторык Васіль Герасімчык.[2] Мы ж звярнулі ўвагу не на план бітвы, а на план горада. На ім няма падрабязнай дэталізацыі, але пазначаны абрысы вуліц, кварталаў і нават асобных будынкаў. Напрыклад, на так званым “Замчышчы” на левабярэжжы Шчары бачым два будынкі. Міхал Казімір Агінскі яшчэ не паспеў пачаць там рэканструкцыю. Такім чынам, мы атрымалі магчымасць зазірнуць у ранейшы Слонім. Першы падрабязны план горада, які нам вядомы, быў выкананы ў 1796 годзе. І на ім ужо бачны след працы старасты Агінскага.

Але што самае важнае на плане 1764 года? Там пазначаныя два рукавы Шчары ў межах горада. Дагэтуль дакладна не было вядома, як выглядала рака да пабудовы ў 1770-я малога канала Агінскага. Выказваліся самыя розныя, нават супрацьлеглыя меркаванні. Той жа краязнаўца і археолаг Васіль Супрун у рэканструкцыях старажытнага Слоніма маляваў розныя варыянты ранейшага працякання ў горадзе Шчары.[3] І вось мы маем план, зроблены да пабудовы канала. Ён аўтэнтычны, узяты з маскоўскага архіву. І дзіўная дата “764 год” таксама сведчыць на карысць гэтага.

Канал выпрастаў звілістае, вузкае рэчышча Шчары. Цяпер мы можам уявіць, як ішла яго пабудова. Асноўнае, шырокае рэчышча ракі гэтыя працы не закранулі. У далейшым яго сталі называць *“Старой ракой”*. Гледзячы на план Слоніма 1764 года, не ўзнікае сумненняў, дзе ж пабудавалі нашы продкі першы замак — натуральна, каля шырокага рэчышча Шчары на Замосці. Там ішоў асноўны рух, кіпела жыццё.

Але застаецца пытанне з працамі, якія праводзіліся пра старасце Льве Сапегу. У дакуменце 1594-га, падпісаным каралём і вялікім князем Жыгімонтам III, згадваецца канал, праз які Ісароку (Ісу) злучылі са Шчарай (відаць, у XIX стагоддзі Пуслоўскі яго проста аднавіў). Там жа чытаем, што *“раку Шчару пад горад і слонімскі замак [Сапега] рвамі павярнуў і прынёс выгады для замка і*

*Працяг на ст. 4*

# Як выглядала Шчара ў Слоніме да пабудовы канала




*Фрагмент плана Слоніма 1796 года. Канал ужо пабудаваны. Замосце зверху*

*Працяг, пачатак на ст. 3*

*горада нашага слонімскага".*[4] Няўжо невялікімі каналамі былі ўнесены "карэктывы" ў вузкае рэчышча Шчары, а да Сапегі яно выглядала інакш? Гэта яшчэ адна загадка. З часам і на яе знойдзецца адказ.

●Сяргей Ёрш

*[1] Судравскій В. Исторія лейбъ-гвардіи гренадерскаго полка. 1756-1906 г.г. Томъ І-й. — С-Петербургъ, 1906. С. 119; http://militera.lib.ru/h/0/pdf/sudravskiy_vk01.pdf*

*[2] Герасімчык В. Слонімская бітва 15 чэрвеня 1764 года // Газета Слонімская, 2020, № 6, 5 лютага, С. 6.*

*[3] Супрун В. Дзеі над Шчарай: (З гісторыі зямлі Слонімскай). — Слонім, 2000. С. 36; Ёрш С. Зноў пра першы слонімскі замак // Слонімскі край, 2017, № 3(13). Сакавік. С. 9.*

*[4] Kościoły i klasztory rzymskokatolickie dawnego województwa Nowogródzkiego, część II, tom 3. Miasto Słonim. — Kraków, 2013. S. 49; Ёрш С. Першыя каналы ў Слоніме капалі на загад Льва Сапегі // Слонімскі край, 2017, № 12(22). Снежань. С. 12-13.*

## СЛОНІМСКІЯ КАРЭСПАНДЭНЦЫІ

# Слонім на старонках газеты "Кавказъ"

"Палітычная і літаратурная" газета *"Кавказъ"* выдавалася з 1846 года ў Тыфлісе (Тбілісі) на рускай мове. Спачатку гэта быў тыднёвік, пасля яна выходзіла штодзённа. У выданні друкавалася шмат інфармацыі пра жыццё тагачаснай Расійскай імперыі. Сустракаюцца карэспандэнцыі са Слоніма, якія перадрукоўваліся з іншых газет ці часопісаў.

### 1883 год

Слонім, 13 (25) жніўня. Пабудова новай Віленска-Ровенскай [чыгуначнай] лініі ідзе поўным ходам. Даследаванне Баранавіцка-Беластоцкай галіны ўжо скончана, праца пачнецца будучай вясной. Горад [Слонім] безкаштоўна прапануе гарадскую зямлю пад палатно дарогі і пад вакзал, абы толькі вакзал быў пабудаваны ў самім горадзе.

*Кавказъ, 1883, № 187, 20 жніўня (1 верасня)*

### 1884 год

Слонім. Учора [11(23) студзеня] лютаваў тут такі вецер, што шмат дамоў засталося без дахаў; амаль усе шыльды зляцелі; шмат дрэваў вырваны

*Працяг на ст. 5*

# Арышт падпальшчыка ў 1865 годзе



Пажарная каманда. Фота XIX стагоддзя

Летам 1865-га маскоўскія і санкт-пецярбургскія газеты паведамілі пра арышт у Слоніме падпальшчыка. Навіны былі сенсацыйныя: *"Слонімскі падпальшчык быў выкрыты не пільнасцю паліцыі, а высілкамі прыватных асоб".* "Маскоўскія ведамасці" пісалі, што арыштаваны загаварыў і паказаў: на беларускіх землях існуюць цэлыя групы такіх, як ён, і *"выконваюць распараджэнні нейкай цёмнай улады, што вырашыла разарыць дашчэнту той край".* Водгаласы задушанага паўстання?

"Санкт-Пецярбургскія ведамасці" развівалі тэму. У выкрытай "змове" аказваецца ўдзельнічалі *"асобы рознага паходжання і розных веравызнанняў".* І арганізацыя падпальшчыкаў не абмяжоўвалася толькі беларускімі землямі… Ну а напрыканцы выданне супакойвала сваіх чытачоў, пісала: *"Трэба спадзявацца, што следства выкрые ўсе ніткі цёмнай справы, а вынік следства, будучы апублікаваны, супакоіць занепакоенае грамадства".*

У жніўні 1865 года "Гродзенскія губернскія ведамасці" фактычна абвергглі ўсю гэтую інфармацыю: падпальшчыка на месцы злачынства не злоўлена, звестак пра арганізацыю падпальшчыкаў няма. Прызнаваўся толькі факт арышту "адной асобы", якую падазравалі ў падпале. Так слонімская сенсацыя, якая толькі пачала пашырацца, хутка памерла.

●Алег Варонка

# Слонім на старонках газеты "Кавказъ"




*Працяг, пачатак на ст. 4*

з каранямі; адзін чалавек адкінуты на некалькі сажаняў і забіты на месцы.

*Кавказъ, 1884, № 11, 14(26) студзеня*

Слонім. Аднавілася пабудова чыгункі Вільня — Роўна.

*Кавказъ, 1884, № 57, 11(23) сакавіка*

Слонім, 18 [30] лістапада. Камісія прыступіла 16-га лістапада да прыёму Віленска-Ровенскай дарогі ў казну. Пасля прыёму ўсталяваўся правільны рух.

*Кавказъ, 1884, № 263, 25 лістапада (7 снежня)*

Слонім, 22 лістапада (4 снежня). Пяты дзень моцная завіруха. Месцамі снег заваліў [дамы] да дахаў. Усялякае спалучэнне спынена. Цягнікі, якія ўчора выйшлі з Мінска на Брэст, з выпадку снежных заносаў былі затрыманыя ў пуці на 19 гадзін.

*Кавказъ, 1884, № 266, 29 лістапада (11 снежня)*

# Уладзіслаў Пуслоўскі

Да стагоддзя кавалергардскага палка імператарскай рускай арміі ў 1906 годзе ў Санкт-Пецярбургу выйшаў том з біяграфіямі афіцэраў, сярод якіх ёсць і слонімец Уладзіслаў Пуслоўскі (1801 — 1859).[1] Артыкул пра яго напісаў ураджэнец Беластока, гісторык-архівіст, бібліёграф Мікалай Чулкоў (1870 — 1940). Ён карыстаўся не толькі палкавым архівам і апублікаванымі матэрыяламі, але і атрымаў неабходныя звесткі ад сына Уладзіслава Зыгмунта Пуслоўскага (1848, Альбярцін — 1913).[2] Для нас апошні факт асабліва важны, паколькі са слоў Пуслоўскага Чулкоў прыводзіць шэраг цікавых фактаў, у тым ліку і па назве Альбярціна.

Калі пра слонімскага павятовага маршалка, прамыслоўца Войцеха Пуслоўскага (1762 — 1833) інфармацыі даволі шмат, то пра яго сына Уладзіслава значна менш. Таму перакажам публікацыю Мікалая Чулкова.

Уладзіслаў (Іван-Адам-Іосіф-Агрыпа) Пуслоўскі нарадзіўся 11 чэрвеня (новага стылю) 1801 года ў Слоніме. Яго маці — князёўна Юзэфа Друцкая-Любецкая (1776 — 1830). Войцех Пуслоўскі быў *“прыхільнікам Расіі”*, але шанаваў традыцыі сваёй сям’і і краю. Такім жа чынам выхоўваў сваіх дзяцей. Пры гэтым адзін з сыноў Адам Цітус актыўна ўдзельнічаў у вызваленчым паўстанні 1830-1831 гадоў, эміграваў у Францыю (у прыналежнасці да паўстання падазраваўся і Уладзіслаў).

*“Выхаванне дзяцей не абыходзілася без цялесных пакаранняў, пры гэтым, калі трэба было пакараць аднаго, то каралі і ўсіх іншых”,* — піша Чулкоў і прыводзіць некалькі дзіўных прыкладаў.



*Уладзіслаў Пуслоўскі*

## Дуэль

Мяркуецца, што Уладзіслаў Пуслоўскі вучыўся ў Вільні. У чэрвені 1820-га ён паступіў юнкерам у Кавалергардскі полк, элітнае падраздзяленне коннай імператарскай гвардыі, якое дыслакавалася ў Пецярбургу. У верасні 1822 года стаў карнэтам (малодшым афіцэрам). Любіў коней і паляванне (звычайна паляваў на мядзведзяў і дзікоў), і аднойчы ледзь не загінуў ад дзіка. Вайсковую кар’еру Пуслоўскага паламала дуэль з адстаўным штабс-капітанам артылерыі Гедэонавым. Слонімец замовіў у кандытарскай лаўцы марожанае, а яго замову “перахапіў” Гедэонаў, які папрасіў прабачэння. Але ў гэты момант зайшоў яго брат, які абурыўся, што той просіць прабачэння ў *“паляка”* і *“хлопчыка”*, ды выклікаў Уладзіслава на дуэль. Штабс-капітан, вядомы дуэлянт, паабяцаў, што прастрэліць галаву Пуслоўскаму, але сам атрымаў ад таго кулю ў галаву і памёр на месцы.

На нейкі час Уладзіслаў Пуслоўскі трапіў пад арышт у нейкі манастыр. Безумоўна, бацька зрабіў усё неабходнае, каб залагодзіць справу. У траўні 1823-га ўжо паручніка перавялі ў Арзамаскі коннаегерскі полк. На вайсковай службе ён яшчэ лічыўся два гады, хаця пераважна знаходзіўся ў адпачынку *“па хваробе”*. З тым жа дыягназам Пуслоўскі

22 сакавіка 1825 года быў звольнены са службы. Пачалося яго грамадзянскае жыццё.

Спачатку Уладзіслаў Пуслоўскі займаўся сельскай гаспадаркай у маёнтку ў Ковенскай губерні. Пасля ён паехаў у падарожжа па Еўропе, доўга жыў у Парыжы, *"дзякуючы сваяцкім сувязям з некалькімі французскімі арыстакратычнымі сем'ямі… быў вельмі добра прыняты ў вышэйшым парыжскім грамадстве"*, стаў чальцом жакей-клуба.

Пасля вяртання на радзіму Уладзіслаў Пуслоўскі быў Ашмянскім павятовым маршалкам. Дваранства абрала яго губернскім маршалкам у Вільні, але зацверджання не адбылося, паколькі ўсплыла гісторыя з дуэллю, з братам-палітэмігрантам. А яшчэ ўладам не падабаліся прагрэсіўныя погляды Пуслоўскага, асаблівасці яго характару — ніколі не хаваў сваіх поглядаў. Сын Зыгмунт згадваў, што бацька намагаўся *"заўсёды абараняць пакрыўджаных"* і часам з-за гэтага трапляў *"у становішча Дон-Кіхота"*. У выніку, ва Уладзіслава было нямала ворагаў, у тым ліку сярод *"вышэйшага начальства"*. З-за гэтага ён з Вільні перасяліўся ў Варшаву, але там гісторыя паўтарылася (аднойчы яго нават арыштоўвалі).

Пасля Варшавы Уладзіслаў Пуслоўскі заняўся "бізнес-імперыяй" бацькі і даволі паспяхова, ён яе нават пашыраў, будаваў новыя прадпрыемствы.



Войцех Пуслоўскі


СБОРНИКЪ БІОГРАФІЙ
КАВАЛЕРГАРДОВЪ
1801-1826
ПО СЛУЧАЮ
СТОЛѢТНЯГО ЮБИЛЕЯ
Кавалергардскаго ЕЯ ВЕЛИЧЕСТВА ГОСУДАРЫНИ
ИМПЕРАТРИЦЫ МАРІИ ѲЕОДОРОВНЫ полка
С.-ПЕТЕРБУРГЪ
1906

Яго капітал даходзіў да вялізнай сумы — 9 мільёнаў рублёў (у цэнах пачатку XX ст.). Асноўныя маёнткі і прадпрыемствы былі ў Слонімскім павеце, у Слоніме — тры дамы. Пуслоўскі жыў спачатку ў маёнтку ў Шылавічах, а пасля — у пабудаваным мураваным палацы на беразе возера ў Альбярціне.

## Пра паходжанне назвы Альбярціна

Відавочна, са слоў Зыгмунта Пуслоўскага Мікалай Чулкоў піша: *"тут* [у Альбярціне] *была вялізная фабрыка, заснаваная старым Пуслоўскім і ў гонар яго атрымала назву Альберцін (ад імя Адальберт)"*.[3] У іншым месцы артыкула аўтар піша пра "Войцеха (Адальберта) Францавіча [Пуслоўскага]".[4] Згадкі важныя, але іх доўгі час ніхто не заўважаў. У кнізе "Народнае прадпрыемства "Альбярцін", якая выйшла накладам у 10 тысяч асобнікаў, напісана, што Войцех Пуслоўскі заснаваў маёнтак *"і назваў яго "Альбярцін" у гонар свайго сына Альберта"*.[5] Такую версію сустракаем у публікацыях апошніх дзесяцігоддзяў у мясцовым, абласным і

Працяг на ст. 8

# Уладзіслаў Пуслоўскі




Працяг, пачатак на ст. 6-7

рэспубліканскім друку. Гэтую ж версію паўтарае ў кнізе, прысвечанай Альбярціну, краязнаўца Сяргей Чыгрын. І пры гэтым заўважае: *"Але сына з імем Альберт у Пуслоўскага не было"*.[6]

Ну вядома ж не было! Нарэшце летась з'явілася публікацыя, у якой аўтарка піша: Альбярцін названы ў гонар Войцеха Пуслоўскага яго сынам Уладзіславам адразу ж пасля яго смерці ў 1833-м. Справа ў тым, што ў каталіцкага святога Войцеха было другое імя Адальберт (Альберт).[7] Шкада толькі, што артыкул уводзіць у зман чытачоў у іншым — перайменаваныя ў Альбярцін былі… Шылавічы.[8] І гэтае глупства неаднаразова там згадваецца.[9]

Святы Адальберт (Войцех) Пражскі жыў у X стагоддзі. Ён лічыцца адным з галоўных апекуноў Польшчы. Войцех Пуслоўскі шанаваў гэтага святога і, відаць, выкарыстоўваў яго другое імя. Невядома, ці сам яго сын вырашыў даць назву маёнтку і фабрычнаму пасёлку назву Альберцін, ці гэта было пажаданне бацькі.

## Графскі тытул Пуслоўскіх у Расіі не быў прызнаны

Уладзіслаў Пуслоўскі займаўся дабрачыннасцю. На яго грошы атрымалі адукацыю 20 маладых людзей з бедных дваранскіх сем'яў. На загад Пуслоўскага арганізоўваліся школы для дзяцей дробных служачых фабрык. З-за гэтага да ўладальніка Альбярціна прыхільна ставілася дробнае дваранства, служачыя і сяляне, а *"асобы, роўныя яму па становішчы і вышэйшыя, у асноўным не далюблівалі яго"*. Сын Зыгмунт выказваўся пра бацьку, як пра чалавека *"вельмі ашчаднага"*, які жыў сціпла. Былі сітуацыі, калі ён зліўся дробнымі выдаткамі сямейнікаў, а калі былі вялікія страты, адносіўся да іх абыякава. Неяк Пуслоўскаму сказалі, што падчас пажару згарэла адна з яго фабрык. А ён адрэагаваў спакойна, заўважыў, што гэтае здарэнне стане ўрокам, каб больш не ўзводзіць драўляных будынкаў.

Уладзіслаў Пуслоўскі не быў ні калекцыянерам, ні мастацтвазнаўцам, але любіў набываць *"прадметы старажытнага мастацтва"*. Ён часта прывозіў іх з паездак у Рым ці Парыж. У сярэдзіне XIX стагоддзя ў палацы быў вялікі збор габеленаў, карцін галандскіх і італьянскіх мастакоў XVII-XVIII стагоддзяў. Мэблю ў Альбярцін прывозілі з Італіі і Данцыга. Кнігазбор Пуслоўскага складаў некалькі тысяч тамоў. Але пра яго Мікалай Чулкоў выказаўся даволі катэгарычна: *"нічога выдатнага"*.

Жонкай Уладзіслава Пуслоўскага ў 1839-м стала яго стрыечная сястра князёўна Генавэфа Друцкая-Любецкая

(1820 — 1867). Пражылі яны разам 10 гадоў. У 1849 годзе з-за слабога здароўя Пуслоўская з дзецьмі з'ехала за мяжу, жыла то ў Італіі, то ў Францыі (каля Бардо сям'я валодала замкам з вінаграднікамі). Уладзіслаў наведваў іх 3-4 разы на год. У 1859-м з дзецьмі нарэшце прыехала ў Варшаву. Аднак Уладзіслаў Пуслоўскі неўзабаве памёр, яго не стала 4 кастрычніка 1859 года. Пахавалі Пуслоўскага ў маёнтку Пескі.

Акрамя Зыгмунта ва Уладзіслава быў сын Франц-Ксаверый. Чулкоў піша, што менавіта гэтыя сыны Уладзіслава атрымалі ад папы рымскага Пія IX *"графскі тытул, не прызнаны ў Расіі"*.[10]

Падрыхтаваў ●СЁ

*[1] Сборникъ біографій кавалергардовъ. 1801 — 1826. [Т. III]. — С.-Петербургъ, 1906. С. 379-382.*

*[2] Тамсама. С. 382.*

*[3] Тамсама. С. 381.*

*[4] Тамсама. С. 379.*

*[5] Анищик Н., Фарбер С., Шевнин А. Народное предприятие "Альбертин". — Минск: Полымя, 1992. С. 5.*

*[6] Чыгрын С. Альбярцін: гісторыка-краязнаўчы нарыс. — Мінск: Кнігазбор, 2011. С. 6.*

*[7] Данілевіч А. Пуслоўскі — першы капіталіст Беларусі // Наша гісторыя, 2019, № 2. С. 47.*

*[8] Тамсама.*

*[9] "СК" звярнуў увагу на гэтую памылку ў наступнай публікацыі: СЁ. Першы капіталіст Беларусі і Шылавічы // Слонімскі край, 2019, № 2(36). Люты. С. 14.*

*[10] Сборникъ біографій кавалергардовъ… С. 382.*

СТАРЫЯ ЗДЫМКІ

# Брама ў Альбярціне



На здымку з фондаў Беларускага дзяржаўнага архіва кінафотафонадакументаў у Дзяржынску бачым браму каля палаца Пуслоўскіх у Альбярціне. У апісанні пазначана, што ён зроблены ў першае дзесяцігоддзе пасля заканчэння Другой сусветнай вайны. Да нашага часу не захавалася вартавое памяшканне, якое прымыкала да аднаго з цагляных пілонаў.

Брама была пабудавана з чырвонай цэглы ў першай палове XIX стагоддзя. Гэта быў галоўны ўезд у рэзідэнцыю Пуслоўскіх. На шчасце, яна захавалася.

●Сяргей Ёрш

# Новая кніга

4 лютага ў Жыровіцкім праваслаўным манастыры прэзентавалі кнігу *“Всерадостное заступление Белой Руси”*, якая выйшла з друку ў 2019 годзе. Яе аўтарам з’яўляецца ігумення Гаўрыіла (Глухава) з Гродна, якая акрэсліла выданне як “духоўна-асветніцкае”. У кнізе на больш за 120 старонках выкладзена гісторыя Жыровіцкага манастыра *“па пісьмовых крыніцах, паданнях і сведчаннях сучаснікаў”.*

На прэзентацыі аўтарка прыгадала, што ў 1990-я гады выдавала брашуру пра гісторыю Жыровіцкага манастыра. Яна неаднаразова перавыдавалася. Цяперашняя кніга не паўтарэнне старой, а зусім новая праца. Для яе ігумення Гаўрыіла сабрала *“цікавы матэрыял”.*







# У красавіку выйдзе жыровіцкая энцыклапедыя

Мінскае выдавецтва “Беларуская энцыклапедыя імя Петруся Броўкі” рыхтуе падарунак да жыровіцкіх юбілеяў — 500-годдзя манастыра і 550-годдзя з’яўлення славутай іконы. Гэта будзе энцыклапедычны даведнік “Жыровічы. Свята-Успенскі мужчынскі манастыр”. У ім змесцяць дзве сотні артыкулаў і шмат ілюстрацый пра мінулае і сучаснасць Жыровіцкай абіцелі. Кніга выйдзе на трох мовах — беларускай, англійскай і рускай.

Выхад даведніка запланаваны на красавік.

●Генадзь Гурскі

# Міністр культуры ў Жыровічах



*Міністр культуры Юрый Бондар і намеснік прэм’ер-міністра Ігар Петрышэнка наведалі Жыровічы ў студзені 2020-га / БЕЛТА*




Рэканструкцыя і будаўніцтва аб'ектаў у Жыровічах да юбілейных мерапрыемстваў скончыцца не пазней за 1 траўня. Пра гэта было заяўлена 24 студзеня на пасяджэнні рэспубліканскага аргкамітэта па іх правядзенні. Пастаўлена задача выканаць усе працы якасна, што пракантралюе кіраўніцтва вобласці.

Толькі на рэканструкцыю і добраўпарадкаванне цэнтральнай плошчы ў Жыровічах будзе выдаткаваны 1 мільён рублёў. Плануецца, што там будуць новыя інжынерныя сеткі, дарожнае пакрыццё (падбіраецца спецыяльная плітка-брукаванка), мадэрнізаванае асвятленне. Будзе добраўпарадкаваны прылеглы да манастыра вадаём, піша grodnonews.by.

# Фантастычная дата



НОВОЕ НЕБО

съ

НОВЫМИ ЗВѢЗДАМИ,

или

ПОВѢСТВОВАНІЕ О ЧУДЕСАХЪ БОГОРОДИЦЫ,

почерпнутое

[illegible] 1677 года

[illegible]

[illegible]

МОСКВА.

[illegible]

1851.

У 1851 годзе ў Маскве выйшла кніга-пераклад *"з польска-рускай мовы"* чарнігаўскага выдання 1677 года пра цуды Божай Маці. Яго дапоўнілі некалькімі тэкстамі з маскоўскіх земляў. Дазвол на друк дала Маскоўская духоўная акадэмія, ухваліў яго і цэнзар пратаіерэй Феадор Галубінскі. Нас кніга зацікавіла таму, што ў ёй згадваецца паданне пра з'яўленне Жыровіцкай іконы Божай Маці. Але называецца ў ёй фантастычная дата — 1191 год! Памылка гадоў на трыста. І пры падрыхтоўцы выдання ніхто яе не заўважыў.



Сказаніе о Жировицкой иконѣ Божіей Матери.

Въ княжествѣ Литовскомъ, въ Слонимскомъ уѣздѣ, есть мѣстечко, называемое Жировицы. Тамъ въ 1191 году, пастухи, пася стадо, увидѣли на деревѣ необычайную свѣтлость, наподобіе пылающаго огня; пришедши ближе къ тому мѣсту, откуда происходилъ

# Па старонках нямецкай ваеннай газеты

*Працяг, пачатак у № 5-8, 10-11, 2019*

8 верасня 1917-га “Kriegszeitung von Baranowitschi” (“Ваенная газета ў Баранавічах”) апублікавала дзве зацемкі пра Слонім. Іх аўтарам таксама быў малодшы лейтэнант Вальтэр Фэст. У першай зацемцы ён апісвае мацэвы, якія пабачыў на яўрэйскіх могілках у горадзе, а найбольш цікавыя замаляваў.[1] У другой піша пра спартыўнае свята, якое наладзілі нямецкія вайскоўцы ў Слоніме. Яно прайшло 1 верасня 1917 года. У гэты дзень адбыўся футбольны матч. Дагэтуль дакладных сведчанняў пра футбол у нашым горадзе падчас нямецкай акупацыі 1915-1919 гадоў не было.[2]

## Яўрэйскія надмагільныя сімвалы

Магілы яўрэйскага насельніцтва ў пейзажах гарадоў[3] уяўляюць незабыўную з’яву: шматлікія ўзгорачкі, якія ўлетку пакрываюцца багатай разнастайнасцю палявых кветак, кустамі дзікарослага ядлоўца ў пірамідальных формах, якія дапаўняюць стракатую каляровую разнастайнасць... З зямлі падымаюцца камяні, якія стаяць адзін побач з іншым, што маюць у большасці сваёй у верхняй частцы закруглёную форму і з выбітым адпаведным надпісам. Бываюць таксама і неапрацаваныя валуны ў сваім, так бы мовіць, натуральным выглядзе. Могілкі акружаны напаўразбуранай недагледжанай каменнай сцяной. Гэтыя руіны сведчаць нібыта пра мімалётнасць і тленнасць усіх зямных спраў...




Звычайны агляд гэтых надмагілляў нічога не скажа нам аб надпісах і сімвалічных выявах на іх. Яўрэйскія літары звычайна нам невядомыя і малюнкі там пададуцца нам таксама беззмястоўнымі. Але гэта толькі на першы погляд. У рэчаіснасці ж, нягледзячы на прастату малюнкаў і даволі прымітыўны тэхнічны ўзровень іх выканання, яны ўтрымліваюць у сабе пэўнае багацце думак.

На нямецкай зямлі часта можна сустрэць у літаратуры, але не ў выяўленчым мастацтве, абламаную галінку, як сімвал смерці. Тут жа на яўрэйскіх могілках вы пабачыце гэты знак у разнастайных варыяцыях.

На ілюстрацыі 5 намаляваная

галінка ў фантастычнай форме. Абламаная ж галінка ружы на ілюстрацыі 3 нагадвае ўжо рэальную мясцовую расліннасць... Прыгожа глядзіцца і сіметрычны малюнак на камені 9.

Не заўсёды малюнак паказвае рэальную форму кветкі або галінкі, але тым не менш, глядач разумее, што хацеў сказаць майстар сваім малюнкам. Малюнак нумар 1 змяшчае таксама напамін пра магчымае ўваскрошанне: каля абламанага дрэва з зямлі ўжо з'яўляюцца новыя парасткі, якія імкнуцца наверх да святла... Малюнак нумар 12 па-свойму адлюстроўвае тую ж думку: з паламанага ствала ўжо вырастае квітнеючая галінка...

На малюнку нумар 2 мы бачым карабель, які плыве са зламанай мачтай. Кніга Закона (Талмуд), якая, як вядома, адыгрывае ў яўрэйскай рэлігіі вядучую ролю, таксама прадстаўлена на надмагільных камянях (нумары 4 і 7). Пры гэтым вылучаюцца выяўленчыя недахопы асабліва ў малюнку нумар 4. Мясцовы майстар па камені, які па сваім эскізе выбіваў малюнак, вядома, не быў здольным мастаком. Праца рабілася спешна і з памылкамі. Рэдка сустракаецца высокамастацкая праца, як напрыклад, надмагілле з падсвечнікамі (нумар 10).

Далоні, якія цягнуцца да кароны (нумар 8) — гэта добра вядомы сімвал смерці і ён не мае патрэбы ў дадатковым растлумачэнні. Як моцна ў выявах могуць адрозніваецца змест і форма, паказвае малюнак 6. Карона тут наогул адсутнічае, і далоні намаляваныя прымітыўна. У апошняй групе сімвалаў смерці з'яўляецца фігура льва. Для правільнага разумення гэтага сімвала трэба выкарыстаць поўную, камплектную карціну (малюнак 11). Такія сустракаюцца параўнальна рэдка. У гэтым выпадку не ўяўляецца складаным расшыфраваць падобную выяву: леў, як увасабленне Сілы, якая супрацьстаіць Смерці (абламаная галінка) і перамагае яе. Поўныя карціны такога сюжэту, як гаварылася вышэй, сустракаюцца рэдка. Часцей малюецца адзін леў ці леў і лунаючыя кветкі.

Нароўні з сімвалічнымі малюнкамі, на яўрэйскіх могілках трапляюцца надмагільныя камяні з арнаментамі, часцей за ўсё, з рознымі завіткамі... Яркія фарбы, пазалота і г. д. надаюць гэтым камяням асаблівы адбітак...

Змешчаныя тут малюнкі сустракаюцца на яўрэйскіх могілках не толькі Слоніма, але і ў Баранавічах, Сталовічах, Новай Мышы і інш.

### Спартыўнае свята ў штурмавым батальёне

У гадавіну перамогі пад Седанам[4] у адным штурмавым батальёне прайшло спартыўнае свята. Падрыхтоўка да яго пачалася даўно. Спартыўныя



*Нямецкія вайскоўцы гуляюць у футбол. Наваколле Баранавічаў, 1916 год / ebay.de*

# Па старонках нямецкай ваеннай газеты

*Заканчэнне, пачатак на ст. 12-13*

спаборніцтвы доўжыліся цэлы дзень. Да абеду праходзіла пяцібор'е: штурханне ядра, скачок у даўжыню, бег на сто метраў, трайны скачок, падняцце 30-кілаграмовай гіры. Увесь бераг Шчары быў заняты гледачамі, якія сачылі за плыўцамі на двухсотмятровую дыстанцыю. На навучальным пляцы батальёна, упрыгожанага сцягамі, рознакаляровымі вымпеламі і трыумфальнай аркай, дзе пасля абеду працягваліся спаборніцтвы, таксама ўся вольная прастора была запоўнена гледачамі. Ганаровы заступнік свята генерал-палкоўнік фон Войрш[5] даў каманду да старту пасляабедзенных спаборніцтваў. Стройнымі калонамі, пад гукі палкавога аркестра, перад шматлікімі гледачамі, прамаршыравалі атлеты... Пад аркестравую музыку дэманстраваліся вольныя гімнастычныя практыкаванні, якія радуюць вока заўзятараў. Затым былі практыкаванні на турніку, кольцах, брусах... Салдаты і афіцэры спаборнічалі: у бегу на 100 метраў на прыз штаба батальёна, у скачках у вышыню, у бегу на 1500 метраў, у бегу на 400 метраў, у скачках у даўжыню; у бегу на 200 метраў з перашкодамі, у поўнай баявой выкладцы — з карабінам і ў касцы (пераадольванне рова ў тры метры шырынёй, паласы з драцянымі загародамі, дзесяціметровы ўчастак для прапаўзання пад дротам, двухметровай глыбіні траншэі); кіданне ручной гранаты на далёкасць і па цэлі; ротная эстафета (10 па сто метраў); камандны крос на 4,5 км у штурмавых касцюмах па пагорыстай мясцовасці. Гледачы бурна падтрымлівалі свае каманды і сваіх таварышаў па службе. Гумарыстычныя ўстаўкі з клоўнамі і г. д., што запаўнялі паўзы паміж спаборніцтвамі, выклікалі буру смеху сярод прысутных. Завяршылася спартыўнае свята гульнёй у лапту і футбольным матчам.

Пераклад

●Ігара Падгарадзецкага

*[1] У "СК" была публікацыя на гэтую тэму: Ёрш С. Мацэвы са слонімскіх яўрэйскіх могілак у берлінскім выданні // Слонімскі край, 2018, № 9(31). Верасень. С. 6-7.*

*[2] Ёрш С. Слонімскі футбол у міжваенны час // Слонімскі край, 2017, № 10(20). Кастрычнік. С. 8.*

*[3] Немец называе беларускія гарады "расійскімі".*

*[4] Падчас франка-прускай вайны 1 верасня 1870 года каля французскага горада Седана прускія войскі атрымалі рашаючую перамогу.*

*[5] Рэмус фон Войрш Марцін Вільгельм (1847 — 1920) — нямецкі военачальнік. Камандаваў армейскай групай "Войрш" на ўчастку Усходняга фронту ў раёне Баранавічаў. Яе штаб знаходзіўся на Слонімшчыне.*




СЛОНІМЦЫ Ў СВЕЦЕ

# Рыгор Арленка

7 лютага 1891 года ў Слоніме нарадзіўся Рыгор Пятровіч Арленка, будучы інжынер, навуковец, выкладчык. Кароткая яго біяграма была змешчана ў даведніку, які выйшаў ва Уладзівастоку ў 1922 годзе.* На той час слонімец там быў дацэнтам кафедры механікі дзяржаўнага дальнеўсходняга педагагічнага інстытута імя Ушынскага. Вядома, што ў 1908-м ён скончыў гімназію ў Брэсце, у 1916 годзе — інстытут інжынераў шляхоў спалучэння ў Петраградзе і нейкі час працаваў па спецыяльнасці. Неўзабаве да ўлады ў Расіі прыйшлі бальшавікі, а Арленка апынуўся аж на Далёкім Усходзе. З 1918-га ён выкладаў "элементарную і вышэйшую матэматыку" ў прыватным політэхнічным тэхнікуме ва Уладзівастоку. У 1920 годзе яго пераўтварылі ў дзяржаўны політэхнічны інстытут, і Рыгор Арленка быў дацэнтам кафедраў вышэйшай матэматыкі і будаўнічай механікі.

Невядома, які быў лёс слонімца пасля прыходу ў канцы 1922-га ва Уладзівасток бальшавікоў. Магчыма, ён выехаў у Манчжурыю. У Харбіне ў міжваенны час жыў нейкі Аляксандр Рыгоравіч Арленка. Можа сваяк? Слонімец мог нікуды не выязджаць. Ва Уладзівастоку і цяпер жывуць Арленкі. Ёсць згадка, што *"прафесар Рыгор Арленка… нямала партовых збудаванняў узвёў ва Уладзівастоку".***

●Генадзь Гурскі

**И-ч[Ивашкевич Борис]. Писатели, ученые и журналисты на Дальнем Востоке за 1918-1922 г.г. — Владивосток, 1922. С. 51.*

***Турмов Г. Технический университет в морском городе // http://www.fegi.ru/primorye/geogr/festu.html*

# Вёска Вішава і ваколіцы

*Працяг, пачатак у №№ 10-12, 2019 г., № 2, 2020 г.*

### Вольны лекар Канстанцін Гнаінскі

Брат Пятра Францавіча Гнаінскага Канстанцін Гнаінскі таксама звязаў сваё жыццё з медыцынай і паступіў на медыцынскі факультэт. Дыплом Віленскага ўніверсітэта на званне лекара быў дадзены Канстанціну Францавічу Гнаінскаму 27 красавіка 1827 года.

Архіўны дакумент сведчыць, што 25 снежня 1832-га Наваградскі земскі суд заверыў купчую *“крепости, по которой бывший Новоградский хорунжий Иван Маркевич из имения своего Щопова 5 крестьян с урочища Комевщизною за сумму 1000 рублей ассигнациями продал Ксаверию, Петру и Константину Францевичам Гноинским”.*[1]

### Калежскі рэгістратар Ксаверый Гнаінскі

Калежскі рэгістратар і сакратар дваранства Ксаверый Францавіч Гнаінскі згадваецца ў кнігах Наваградскага павятовага суда 15 лістапада 1822 года: *“По закладной сделке, по которой Новоградский хорунжий Иосиф Мержиевский за сумму пять тысяч ассигнациями, занятую у Колежского Регистратора и Секретаря дворянства Ксаверия Францева Гноинского отдал ему в трехлетнее закладное владение деревню Коньки с 11 крестьянами и со всеми принадлежностями”.*[2]

Ксаверый Гнаінскі ў 1844 годзе стаў уладальнікам маёнткаў Вішава і Студзераўшчына. Вядома, што ў яго былі сыны Атон і Канстанцін.


О ДѢЙСТВІИ
ХЛОРИСТАГО БАРІЯ
НА ЖИВОТНЫЙ ОРГАНИЗМЪ
написанное, для полученія степени
доктора медицины
Оттономъ Гноинскимъ.
МОСКВА.

### Доктар медыцыны Атон Гнаінскі

Атон Ксавер’евіч Гнаінскі (1838 — 1913) таксама звязаў сваё жыццё з медыцынай і паступіў на медфакультэт Маскоўскага ўніверсітэта. У 1866-м вучоны савет Маскоўскага ўніверсітэта прысвоіў Атону Ксавер’евічу Гнаінскаму ступень доктара медыцыны, а дысертацыя “Пра дзеянне хлорыстага барыя на жывёльны арганізм” была надрукавана асобнай кнігай ва ўніверсітэцкай друкарні. У ёй ёсць прысвячэнне настаўніку, прафесару Вацлаву Пелікану, ураджэнцу Слоніма.

У лютым 1867 года А. Гнаінскі атрымлівае права дзяржаўнай службы. Ён працаваў у вёсцы Лыскава Ніжагародскай губерні Расіі. 29-гадовы халасты лекар рымска-каталіцкага вызнання атрымліваў 1000 рублёў у год і “асобна 200 рублёў за працу па фармацэўтычнай частцы”. У канцы 1869-га ён стаў загадваць і гарадской бальніцай ў павятовым Макар’еве, выязджаючы туды для аказання дапамогі хворым. Ён быў адзіным земскім доктарам у павеце, штогод прымаў тысячы хворых. Дзякуючы Атону Гнаінскаму, рабіліся прышчэпкі ад воспы тысячам дзяцей (праўда, быў моцны супраціў сялян, асабліва старавераў). У 1870-1871 гадах ён самаахвярна працаваў падчас халернай эпідэміі.

У лістападзе 1871-га Гнаінскага, паводле яго прашэння, перавялі ў губернскую бальніцу ў Ніжнім Ноўгарадзе, дзе ён і працаваў да 1889 года, лічыўся адным з лепшых лекараў. А пасля выхаду ў адстаўку займаўся прыватнай медыцынскай практыкай. Бедных мясцовых жыхароў ён наведваў бясплатна.[3]

А. Гнаінскі быў членам Ніжагародскага таварыства лекараў, старшынём грамадскіх клубаў і сакратаром таварыства службы бедным. А яшчэ больш за 25 гадоў з’яўляўся старастам пры Ніжагародскім касцёле, фінансаваў будаўніцтва новага храма.

Каля 1910 года калежскі дарадца Атон Гнаінскі пакінуў Ніжні Ноўгарад. Апошнія некалькі гадоў жыцця ён правёў у радавым маёнтку Вішава на Слонімшчыне, дзе і памёр 23 верасня 1913-га. Паведамленні пра яго смерць з’явіліся ў газетах у Ніжнім Ноўгарадзе. Успаміналі лекара з цеплынёй і павагай.[4]

●Святлана Брайчук

*Працяг у наступным нумары*

*[1] Нацыянальны дзяржаўны архіў Беларусі ў г. Гродна, ф. 332, воп. 2, спр. 2.*

*[2] Тамсама.*

*[3] Краснов В. Земский врач Оттон Гноинский // Приволжская правда (Лысково), 2016, 30 жніўня.*

*[4] Тамсама.*

# Пра забойства альбярцінскага паліцэйскага

12 сакавіка (па старым стылі) 1906 года ў Слоніме быў застрэлены конны стражнік Альбярцінскага атрада паліцэйскай стражы Слонімскага павета Аляксей Пятровіч Болвін. Ён стаў адной са шматлікіх ахвяр рэвалюцыйнага тэрору на Гродзеншчыне (як і па ўсёй Расійскай імперыі, у складзе якой знаходзілася Беларусь), развязанага прадстаўнікамі шэрагу тагачасных апазіцыйных партый. Вывучаў гэтую праблему даследчык Валерый Чарапіца з Гродна, які піша пра аб'яўленне рэвалюцыянерамі пасля правалу адкрытых выступленняў "партызанскай вайны" з выбухамі самаробных бомбаў і забойствамі паліцэйскіх стрэламі з рэвальвераў у спіну. Яны спрабавалі расхістаць імперыю.[1] Шмат забойстваў было ў Беластоку, які ўваходзіў у Гродзенскую губерню. Між іншым, на Беласточчыне 21 лютага 1905-га загінуў спраўнік Мікалай Нікіфаравіч Ельчын, які раней служыў у Слонімскім павеце.[2]

"СК" з мінулага года публікуе ўспаміны "Рэвалюцыйны Слонім" пра падзеі 1905 года ў нашым горадзе. Яны дазваляюць зразумець настроі мясцовых жыхароў, у тым ліку і рэвалюцыянераў. Радыкальная прапаганда асабліва ўздзейнічала на моладзь, сярод якой нярэдка "старэйшыя таварышы" вербавалі баевікоў, узбройвалі іх, давалі заданні. Рэвалюцыйны "актыў" рознымі метадамі ўздзейнічаў на пасіўную большасць, патрабуючы падтрымкі сваіх дзеянняў. А мясцовае начальства *"страціла галаву, не ведаючы, што рабіць"*.[3]



*Аляксей Болвін*

У такой сітуацыі на "пярэднім краі" барацьбы з рэвалюцыянерамі апынуліся паліцэйскія, якія невялікімі сіламі падтрымлівалі ў горадзе парадак. Той жа Болвін аднойчы быў акружаны натоўпам і нехта прыгразіў яму рэвальверам. Ён адрэагаваў імгненна — дастаў шашку і нанёс удар таму, ад каго пачуў пагрозу. Натоўп разбегся, забраўшы з сабой параненага. Былі і іншыя выпадкі, калі паліцэйскі паспяхова дзейнічаў супраць "злачынных элементаў".[4]

Не дзіўна, што менавіта Аляксея Болвіна выбралі сваёй ахвярай тэрарысты. Гэта мусіла быць паказальнае пакаранне, каб іншыя паліцэйскія баяліся і не выказвалі актыўнасці. За тры дні да забойства Болвіна папярэдзіў невядомы яўрэй.[5] Але ён працягваў несці службу. Не звярнуў увагі паліцэйскі і на словы жонкі, якая прасіла яго кінуць службу і з'ехаць са Слоніма. Яе рэгулярна запалохвалі — у невялікім гарадку не было таямніцай месца жыхарства праваахоўніка.

Сітуацыя ў сям'і Болвіных была нервовая. У нядзелю Аляксей быў на службе раніцай. Апоўдні за ім прыйшла жонка і яны разам пайшлі дахаты. 12 сакавіка — гэта была нядзеля, базарны дзень. Яны трапілі ў засаду недалёка ад рынку, калі з завулка выбеглі некалькі маладых яўрэяў і на вачах у шматлікіх сведкаў зрабілі некалькі стрэлаў паліцэйскаму ў спіну. Ён павярнуўся да стралкоў, але не паспеў стрэліць у адказ, бо з іншага завулка выбеглі іншыя тэрарысты і расстралялі яго. Адна з куль трапіла ў сэрца. Болвін так і ляжаў на бруквканцы з рэвальверам у руцэ, а каля яго плакала жонка, якую не закранулі кулі.[6]

Уначы 13 сакавіка 1906-га былі затрыманыя трое тэрарыстаў — Шухатовіч, Асакоўскі і Швар. Іх апазнала жонка забітага, якая добра запомніла твары стралкоў. Пра тое, што гэтыя трое дзейнічалі не самастойна, а за імі стаяла арганізацыя, сведчыць спроба ціску на Болвіну і на суд. З боку абвінавачаных было аж 58 сведкаў, якія даказвалі іх невінаватасць (сярод сведкаў апынулася нават нейкая сялянка).[7] Больш таго, да ўдавы падходзілі невядомыя асобы-яўрэі, якія прасілі яе адмовіцца ад паказанняў. Гэта маглі быць ці сваякі стралкоў, ці іх паплечнікі. Болвіна не

адмовілася ад сваіх паказанняў. Віленскі вайскова-акруговы суд асудзіў забойцаў альбярцінскага паліцэйскага на смяротнае пакаранне праз павешанне, пасля замененае на 20-гадовую катаргу.[8]

Удава паліцэйскага засталася жыць у Слоніме. Дзяцей у яе не было. Яна атрымлівала штомесяц дапамогу ў памеры 10 рублёў.[9]

Забойствы аднак не спыніліся. 13 сакавіка 1907-га зламыснік забіў паліцэйскага ўрадніка Слонімскага павета Мікіту Станіслававіча Кандрашука. Забойцу знайшлі і пакаралі.[10]

●Сяргей Ёрш

*[1] Черепица В. Звенья единой цепи: Большие и малые события в истории Гродненщины XIX-XX столетий. — Гродна, 2009. С. 53.*

*[2] Гродненскія губернскія ведомости, 1905, № 9, 25 лютага.*

*[3] Книга Русской Скорби. Т. VI. — С.-Петербургъ, 1910. С. 121.*

*[4] Тамсама.*

*[5] Тамсама.*

*[6] Книга Русской Скорби. Т. VI. С. 122; Звенья единой цепи… С. 68.*

*[7] Звенья единой цепи… С. 68.*

*[8] Книга Русской Скорби. Т. VI. С. 122.*

*[9] Тамсама. С. 124.*

*[10] Звенья единой цепи… С. 71.*

# Друкарня і бомбы




У Слоніме ў возе знойдзены друкарскі станок, 20 рэвальвераў, 500 патронаў, кінжалы, 2 бомбы, 5 згорткаў выбуховага рэчыва, бляшанкі і начынне для бомбаў. Затрыманы адзін, двое ўцяклі.

*Сибирская жизнь, 1906, № 170, 9 жніўня*

# Зноў пра прадпрымальніка Антона Рудзінскага

У 2018-м “СК” пісаў пра слонімскага прадпрымальніка Антона Рудзінскага.* Ён займаўся вырабам сельскагаспадарчых машын, а таксама надмагільных помнікаў, крыжоў і г. д. Рудзінскі даваў рэкламныя аб’явы ў розныя перыядычныя выданні Санкт-Пецярбурга, дасылаў клієнтам ілюстраваны каталог.

На жаль, пра лёс прадпрымальніка пакуль нічога невядома. Антон Рудзінскі, расстраляны ў пачатку 1938-га, аказаўся іншым чалавекам.

У адным з даведнікаў, прысвечаным прамысловасці ў Расійскай імперыі**, ёсць важная інфармацыя пра слонімца. Антон Юльянавіч Рудзінскі заснаваў свой бізнес у 1894 годзе. Прадпрыемства знаходзілася ў Слоніме па Жыровіцкай вуліцы ва ўласным доме. Цяпер гэта вуліца Карла Маркса.

З іншай крыніцы ведаем, што ў 1913-м Рудзінскі быў уласнікам дома па Маскоўскай вуліцы.*** Гэта цяперашняя Чырвонаармейская. Атрымліваецца, што ён меў два дамы, якія маглі быць побач паміж згаданымі вуліцамі.

З 1894 года ў Расійскай імперыі ўвялі кватэрны падатак, які ўстанаўліваўся ў залежнасці ад памеру арэнднай платы. У склад падатковай камісіі гарадская дума выбірала ўладальнікаў дамоў. У 1913-1914 гадах чальцом такой камісіі ў Слоніме быў Антон Рудзінскі. Іншых звестак пра яго пакуль выявіць не ўдалося.

●СЁ




*Аб’ява ў газеце “Сельскій вестникъ” (С.-Пецярбург), 1905 год*

**Пра слонімскага прадпрымальніка Антона Рудзінскага // Слонімскі край, 2018, № 8(30). Жнівень. С. 40.*

***Езиоранский Л. Фабрично-заводские предприятия Российской империи. — Санкт-Петербург, 1909.*

****Адрес-календарь и справочная книжка Гродненской губернии на 1914 год. — Гродна, 1913. С. 318.*

УСПАМІНЫ

# Рэвалюцыйны Слонім



Рэальная вучэльня ў Слоніме. Фота пачатку XX ст.

*Працяг, пачатак у № 8-12, 2019 г., № 2, 2020 г.*

Хтосьці з таварышаў прапанаваў прайсці па кватэрах вучняў: дарослых таварышаў пад добрапрыстойнай падставай выклікаць на Неўскі*, а малым з ніжэйшых класаў загадаць ад імя інспектара вучэльні не хадзіць заўтра на заняткі. Нас было чалавек 15-18. Мы разбіліся на групы і накіраваліся па кватэрах склікаць вучняў на біржу. У некаторых выпадках мы дзейнічалі адкрыта, называючы мэту склікання, але ў большыні давялося хітрыць і выдумляць, спасылаючыся на распараджэнне інспектара. І мы дасягнулі мэты. Да адзінаццатай гадзіны ночы на біржу сабраўся вялізны натоўп вучнёўскай моладзі. У большасці на тварах здзіўленне і цікаўнасць. Сабраліся і чакалі.

Праз хвіліну да нас падышлі прадстаўнікі сацыялістычных партый, паведамілі пра стан спраў у сталіцы [Пецярбургу] і запрашалі прыняць удзел у заўтрашняй палітычнай забастоўцы. Для большай пераканаўчасці давялося выкарыстаць і пагрозу, што са штрэйкбрэхерамі будзе зроблена, як са здраднікамі справы свабоды. Прамаўлялі некалькі выступоўцаў — адзін за адным і, слухаючы іх прамовы, хацелася не толькі страйкаваць, але і будаваць барыкады. Настрой сярод школьнікаў ствараўся баявы, павышаны. Супраць забастоўкі не пачулася ніводнага слова. Але асабіста ў мяне і яшчэ двух-трох вучняў не было ўпэўненасці, што страйк пройдзе.

Як правялі ноч мае таварышы — не ведаю, але я не спаў. Усемагчымыя думкі лезлі ў галаву і гналі сон. Вялізная радасць віравала ў душы. І разам з тым адчуваўся нейкі неспакой. А раптам страйк, які я лічыў актам першаступеннай важнасці, не пройдзе? Бо заўтра першы мой дэбют. Заўтра я першы раз актыўна і адкрыта выступаю і ўдзельнічаю ў забастоўцы, адпаведна, у барацьбе з самаўладдзем. Дагэтуль усё, што я рабіў, рабіў тайна, хаваючыся і аглядаючыся. А мне так хацелася подзвігу і ахвяры, хацелася пацярпець у імя свабоды. Не дарма ж я праз нейкі час, атрымаўшы некалькі бізуноў ад коннага стражніка, адчуваў сябе героем і шчасліўцам!..

Ноч цягнулася марудна і я бавіў час, адкрыўшы свой вучнёўскі куфэрак, ды дастаўшы з яго пачак пракламацый розных партый і розных назваў. Я перачытваў іх, складаў і зноў чытаў. Заснуў я на світанні. 2-га лістапада каля 8-й гадзіны раніцы я пайшоў на біржу. Падручнікаў не ўзяў, паколькі вырашыў, што, нягледзячы ні на што, у вучэльню не хадзіць. Будзь, што будзе… Вуліцы былі пустыя, мінакоў амаль няма, не відаць рамізнікаў; крамы і майстэрні закрытыя. Толькі на біржы вялікі натоўп рабочых, а па кутках вуліц дзе-нідзе гарадавыя. Тут жа на біржы я сустрэў таварышаў па класе. У іх было такое ж рашэнне: сёння не вучыцца… Мы сталі прагульвацца па ходніках у чаканні далейшых падзей.

Каля 9-й гадзіны сям-там сталі з’яўляцца адзінокія фігуры вучняў нашай школы. З падручнікамі пад пахай яны накіроўваліся да вучэльні. Турбуючыся за вынік нашай забастоўкі, мы сталі іх спыняць, выкарыстоўваючы

ўсе даступныя нам сродкі і агітацыйныя прыёмы, каб паўплываць на маладушных. У большасці выпадкаў агітацыя мела поспех. Праз паўгадзіны, калі ўжо сабралася даволі ўнушальная група вучняў, мы, перамовіўшыся з партыйнымі рабочымі, накіраваліся да брамы нашай вучэльні, дзе ўжо быў натоўп іншых школьнікаў, сярод якіх вылучалася масіўная фігура нашага інспектара Батурына.

Дрэнь справа, — падумаў я. — Заняткі, верагодна, адбудуцца. Ці ж можна было спадзявацца на вытрымку і стойкасць сваіх аднакласнікаў, амаль не закранутых рэвалюцыяй і ў большасці малалетніх? Якімі ж былі мы наіўнымі, чакаючы салідарнасці ад малых, а без іх нічога не выйшла б…

*“Дарма мы паказаліся на вочы інспектару,* — гаворыць адзін таварыш, — *ён нас бачыць і цяпер воляй-няволяй прымусіць ісці ў клас”.* Трэба бегчы, вырашыў я, выслізнуць незаўважна з натоўпу і вярнуцца на біржу. Мы сталі абмяркоўваць гэтую сітуацыю.

Нам, ініцыятарам забастоўкі, здавалася ганебным сесці ў душным класе за падручнікі, калі ўся рэвалюцыйная Расія сёння страйкуе, выказваючы свой пратэст супраць зверстваў самаўладдзя. Асабіста я адчуваў сябе вельмі кепска, іншыя таварышы не лепш.

Чым скончылася б уся гэтая задума, цяжка сказаць, але нам дапамаглі партыйныя таварышы, якія стаялі тут жа і назіралі за вучнямі. Пабачыўшы, што справа можа прыняць непажаданы абарот, і навучэнцы па першым званку рынуцца ў класы, рабочыя хутка накіраваліся да інспектара і ў ветлівай, але катэгарычнай форме прапанавалі вучэльню закрыць з-за ўсеагульнай палітычнай забастоўкі і вучняў распусціць па хатах. Інспектар быў некалькі ўсхваляваны, але чакаў такога развіцця падзей. Ён даў абяцанне заняткаў не праводзіць. Калі рабочыя адышлі, Батурын, звяртаючыся да нас, сказаў:

*“Спадарства! З-за таго, што ў краіне адбываецца смута, а ў горадзе неспакойна, займацца сёння не будзем, каб не раздражняць бастуючых рабочых… Прашу вас, не швэндайцеся па вуліцах, ідзіце спакойна па хатах і разважліва рыхтуйцеся да заўтрашніх урокаў… Ну, з Богам”….*

*“Добра, спадар інспектар!”,* — прагучалі радасныя галасы, і натоўп на чале з намі рушыў на Неўскі праспект. Вясёлыя, узбуджаныя, мы, здавалася, ляцелі на крылах.



*Жаночая гімназія ў Слоніме. Фота пачатку XX ст.*

На рагу Неўскага да нас далучыўся вялізны натоўп рабочых і вучняў яўрэйскай гарадской вучэльні. Нейкі прамоўца, які залез на плечы таварышаў, сказаў кароткую, але запальваючую прамову, заклікаючы нас да далейшай барацьбы з самаўладдзем. Тут жа было вырашана абысці ўсе навучальныя ўстановы горада, сарваць там урокі, а пасля наладзіць агульнавучнёўскі мітынг. У гэты момант да нас наблізіўся паліцмейстар з атрадам гарадавых і абʼявіў, што мітынгі на вуліцы пад адкрытым небам забаронены, і што для гэтага ёсць закрытыя памяшканні. У адказ пачуліся воклічы абурэння і натоўп рушыў па Неўскім. Наперадзе ўзнялі чырвоны сцяг, грымнула “Варшавянка” і пад яе напеў мы накіраваліся да прыватнай жаночай гімназіі.

На балконе дома нас сустрэла радасная і ўсмешлівая ўтрымальніца гімназіі і, махаючы хусткай, паведаміла, што гімназісткі яшчэ ўчора абʼявілі ёй, што займацца сёння не будуць. Мы павярнулі да жаночага пансіёну Васенінай і, спыніўшы заняткі ў класах, накіраваліся да першай царкоўна-прыходскай вучэльні. Тут заняткі былі ў поўным разгары. Мотка Камянецкі і Вацлаў Юшкевіч з двума вучнямі яўрэйскай вучэльні ўварваліся ў клас і ад імя ўсіх навучэнцаў запатрабавалі спынення заняткаў. Настаўнік пачаў спрачацца, але, пабачыўшы на вуліцы маніфестантаў, саступіў, і вучні былі распушчаныя.

● А. Левандоўскі

*Працяг у наступным нумары*

**Парадная вуліца, цяпер — ніжняя частка Першамайскай вуліцы. — “СК”.*

# Міхаіл Бакунін у Слоніме

Малавядомы факт, што восенню 1834 года ў нашым горадзе пабываў Міхаіл Бакунін (1814 — 1876), будучы вядомы рускі рэвалюцыянер і адзін з тэарэтыкаў анархізму. Ён скончыў артылерыйскую вучэльню ў Пецярбургу, у 1833-м стаў прапаршчыкам. У чэрвені 1834 года Бакуніна адлічылі з афіцэрскага курса *“за дзёрзкасць”* і адправілі служыць у Беларусь. Спачатку ён быў у Маладзечне, пасля — у Вільні, адкуль 14 верасня яго артылерыйскую брыгаду адправілі “на зімовыя кватэры” ў Картуз-Бярозу. Шлях заняў 19 дзён. Дзесьці ў канцы верасня 1834-га рускія вайскоўцы дабраліся праз Ліду да Слоніма.* У нашым горадзе вайсковая частка Бакуніна доўга не затрымалася, пасля адпачынку рушыла далей. Дзесьці ў дарозе будучы анархіст пабіўся з баронам Нітэльгорстам, які яго абражаў…



М. А. БАКУНИН

СОБРАНИЕ СОЧИНЕНИЙ И ПИСЕМ

1828—1876

под редакцией и с примечаниями Ю. М. СТЕКЛОВА

ТОМ ПЕРВЫЙ

ДОГЕГЕЛИАНСКИЙ ПЕРИОД

1828—1837

ИЗДАТЕЛЬСТВО ВСЕСОЮЗНОГО ОБЩЕСТВА ПОЛИТКАТОРЖАН И ССЫЛЬНО-ПОСЕЛЕНЦЕВ



*Міхаіл Бакунін*

У лістах да сясцёр Міхаіл Бакунін распавядае пра падарожжа па Віленскай і Гродзенскай губернях, якія называе Літвой. Шмат разважае над гістарычным лёсам нашай зямлі. У Бярозе Бакуніну было сумна, хацелася пагаварыць на тэму філасофіі, а мясцовую шляхту цікавілі больш зямныя рэчы…

Прапаршчыка Міхаіла Бакуніна цягнула на радзіму. У снежні 1835-га ён зволніўся са службы па стане здароўя.**

●СЁ

**Бакунин М. А. Собрание сочинений и писем. 1828 — 1876. Том I. — Москва, 1934. С. 140, 163.*

***Корниловъ В. Молодые годы Михаила Бакунина. Изъ исторiи русскаго романтизма. — Москва, 1915. С. 89.*

СЛОНІМЦЫ Ў СВЕЦЕ

# Арон Гольдберг

13 лістапада 1899 года ў Слоніме нарадзіўся Арон Цевелевіч (Аркадзь Цімафеевіч) Гольдберг. Ён прысвяціў сваё жыццё бібліятэчнай справе. Лёс закінуў слонімца ў Расію. Пасля Другой сусветнай вайны Гольдберг жыў у Ленінградзе, працаваў у Расійскай нацыянальнай бібліятэцы. На пенсію выйшаў у 1963-м. Не стала Арона Гольдберга 14 траўня 1970 года.

Кароткая біяграфічная даведка пра слонімца змешчана ў першым томе біяграфічнага слоўніка “Супрацоўнікі РНБ — дзеячы навукі і культуры”.



Усе нумары краязнаўчага месячніка “Слонімскі край”, якія выйшлі на працягу 2016-2020 гадоў, можна знайсці на сайце беларускай інтэрнэт-бібліятэкі “Камунікат”: http://kamunikat.org/slonimski_kraj

“Слонімскі край” — краязнаўчае электроннае выданне. Выходзіць раз на месяц.

Заснаванае ў лютым 2016 года

Рэдактар Сяргей Ёрш

Наш адрас: slonimskikraj@gmail.com

Спасылка на “СК” пры передруку абавязковая.